


# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

24 кастрычніка 2014 года №43 (1017)

За 13 гадоў аб'ём вытворчасці знізіўся ў 11,5 раза

7000 тон — 1990 год; 604 тоны — 2013 год

## Кіраўніцтва Маладзечанскага завода парашковай металургіі вымушана будзе скараціць 180 чалавек

**Пра стан і перспектывы завода распавядае ў інтэрв'ю "РГ" яго дырэктар Сяргей Цыргановіч**

старонка 2



# Будаваць дамы на месцы расстрэлаў не будуць




Калаж Настассі РОЎДЫ.

**У калажы – здымак пратакола допыту жыхара валожынскага гета Лазара Мельцара. Партрэты людзей, якія спрычыніліся да спынення будаўніцтва на былым стадыёне ў Валожыне, дзе ў часы Другой сусветнай расстралялі 200 яўрэяў. Грамадскі дзеяч Георгі Каржанеўскі ладзіў пікет супраць будаўніцтва. Ён пайшоў з жыцця сёлета ў верасні ў выніку інсульту. Валянціна Грабоўская, Ніна Васілеўская і Ніна Галіеўская былі сведкамі тых расстрэлаў. Іх успаміны мы друкавалі ў №32 за 8 жніўня.**

**ВАЛОЖЫН. Раскопкі на былым стадыёне ў Валожыне скончыліся. У часы Другой сусветнай тут расстрэльвалі яўрэяў. 21 кастрычніка правялі працэдуру перапахавання знойдзеных парэштkаў.**

Прысутнічалі яўрэйскі, праваслаўны і каталіцкі святары.

### Раскопкі пачалі з-за зваротаў людзей

Колькі тыдняў таму Валожынскі райвыканкам ініцыяваў пачатак работ па раскопках. Мясцовыя жыхары сцвярджалі, што тут паклалі 200 яўрэяў.

– Неаднаразова да нас звярталіся грамадзяне з просьбай правесці археалагічныя даследаванні. Высветліць, ці сапраўды ў зямлі ляжаць астанкі людзей. Мы прынялі рашэнне пачаць раскопкі, – кажа Вікенці Адамовіч, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі.

Праводзіў іх спецыялізаваны пошукавы батальён.

– Дзясяткамі гадоў гэтыя спецыялісты займаюцца такімі працамі, – тлумачыць спецыяліст.

Раскопкі ішлі ў парадку, які існуе для гэтага, упэўнівае Вікенці Адамовіч.

– Адназначна, на гэтым месцы будаваць дамы ніхто не будзе. Мы прапанавалі некалькі іншых участкаў на выбар, – каментуе ён.

На былым стадыёне, хутчэй за ўсё, з'явіцца алея памяці ахвярам фашызму.

**Раней тут хацелі пабудаваць жылыя дамы па заказе фірмаў "Дан Прод" і "Трайпл" для вайскоўцаў і работнікаў свінакомплексу.**

### Ніна Галіеўская ўказала месца пахавання

Перад пачаткам раскопак спецыялісты сустрэліся з мясцовымі жыхарамі, якія памятаюць падзеі вайны. Сведчанні **Ніны Галіеўскай** (дзявочае прозвішча – Наквас) мы друкавалі ў №32 за 8 жніўня.

Урывак з яе ўспамінаў:

*"Мне тады было восем гадоў.*

*Мы пасвілі кароў і гулялі ў нейкую гульню. Да нас падышла Стэфаніда Карабан, яе Стэфкай звалі. Гаворыць: "Дзеці, схадзіце на стадыён, паглядзіце, што там робіцца. Страляюць і страляюць. Толькі не выходзьце, каб вас не ўбачылі".*

*Мы ўсёй чарадой, чалавек сем, і яна, пайшлі. Ляглі ля агароджы стадыёна, толькі вочы высунулі.*

*Там расстрэльвалі. Чалавек дзвесце паклалі, ад 16 да 25 гадоў. Іх падманулі. Сказалі: "Збірайцеся і на работу". Паліцаі іх прыгналі ў казарму і закрылі".*

**Да вайны ў Валожыне жыло больш за дзве тысячы яўрэяў. Большасць з іх знішчылі фашысты.**

Мы таксама пісалі пра пікет, які ладзіў валожынскі актывіст **Георгі Каржанеўскі**. Змяшчалі адмову ўладаў аб спыненні будаўніцтва.

Давалі ў друк паказанні жыхара валожынскага гета **Лазара Мельцара** на допыце 1971 года.

Артыкулы вы можаце знайсці на нашым сайце: Rh.by

**Настасся РОЎДА.**

● ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Каб выжыць, завод скарачае 180 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА. Камітэт дзяржкантролю правёў праверку рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Маладзечанскі завод парашковай металургіі”. Выснова праверкі – на заводзе ўстойлівы спад вытворчасці. Аб’ёмы падаюць, новыя вырабы не з’яўляюцца, а на складзе пратэрмінаваная прадукцыя на два мільярды рублёў.**

Прадпрыемства атрымала штраф на 133 мільёны рублёў.

У чым прычына такога заняпаду і якое выйсце можа быць, распавёў дырэктар завода **Сяргей Цыргановіч**.

– Дзяржкантроль зрабіў сваю справу – знайшоў недахопы, якіх тут мора. Прадпрыемства больш за год працуе са стратамі. Прычыны – не хапае аб’ёмаў вытворчасці, адпаведна, вялікая запазычанасць, у тым ліку перад банкам. Няма свабодных абаротных сродкаў, таму немагчыма закупіць сыравіну і матэрыялы. Плюс агульнае падзенне рынку. З усяго гэтага склалася цяперашняя сітуацыя.

Сёння мы канчаткова не сфармулявалі рашэнне па далейшай рабоце прадпрыемства.

358 чалавек, якія працавалі на пачатак года, не забяспечаныя работай. Каб выйсці на прыбытак ці хаця б на нулявы вынік, даводзіцца ісці на непапулярныя меры. Будзем праводзіць вялікае скарачэнне рабочых.

**Давядзецца скараціць да 180 чалавек, але пры гэтым павінны захаваць аб’ёмы вытворчасці. Гэта дазволіць пачаць выходзіць з цяперашняга заняпаду завода.**

Яшчэ адно рашэнне – інтэрнат, у якім жывуць нашы работнікі, перададзём “Камунальніку”. Так зэканомім на расходах па яго ўтрыманні. Мяркую, што работнікаў найперш трымае не інтэрнат, а высокі заробак, добрыя ўмовы працы і перспектыва.

**– Ці магчыма выйсці на прыбытак?**

– Вельмі складана адказаць, таму што цяпер сітуацыю на рынку немагчыма спрагназаваць. Сёння “Амкадор” просіць прадукцыі на 100 мільёнаў пры іх запазычанасці ў 400 мільёнаў рублёў. Той жа трактарны завод 277 мільёнаў вінаваты. Чэбаксарскі трактарны завод таксама. Яны своечасова не разлічваюцца.

## Колькі даўгоў у завода і колькі вінаватыя яму

### ў мільярдах рублёў




Дыяграма Зоі ХРУЦКАЙ.

На гэту сітуацыю накладваецца падзенне расійскага рубля. Калі расійскі рубель рос, прадпрыемства выйгравала. А сыравіна ўся прывазная: жалезны парашок – з Украіны, метал – з Украіны і Расіі, медны парашок – з Расіі. І цэны прывязваюць да долара. Таму сабекошт скача.

У 2012 годзе рынак быў добры, прадпрыемства атрымала 4,5 мільярда рублёў чыстага прыбытку. Ад сярэдзіны 2013 года адбыўся праваль вытворчасці. Мяркую, падобная сітуацыя тычыцца многіх беларускіх заводаў.

**– Вы працуеце толькі з красавіка, адразу трапілі на завод з вялікімі стратамі. Што змянілася за час вашага кіраўніцтва?**

– За паўгода сітуацыя не пагоршылася, аб’ём вытворчасці меншым не стаў. Калі за першы квартал рэнтабельнасць была мінус 18,7%, то цяпер мінус 14,2%. Калі б была нулявая рэнтабельнасць, сёння мелі б плюс 4%. Але, на жаль, было горш за нуль.

Бліжэйшыя месяцы будзе вельмі цяжкі перыяд. Я не бяруся ставіць доўгатэрміновыя прагнозы. Цяпер задача – выжыць. Прадпрыемства спецыфічнае, адно такое ў Беларусі. Нашы работнікі маюць вузкую спецыялізацыю, і ім будзе складана знайсці іншую працу.

**Цяперашні сярэдні заробак па заводзе вельмі нізкі – 3,6 мільёна рублёў.**

**– Калі 14 год таму ў ваш рынак збыту ўваходзілі Балгарыя, Італія, Германія, то цяпер амаль 89% ідзе на Расію. У чым вы бачыце прычыну?**

– Рынак збыту сёння стабільны. Заходнія краіны цалкам забяспечаныя сваёй прадукцыяй, таму мы можам працаваць найперш з Расіяй. Тым больш, што знос абсталявання 97%, а гэта адбіваецца на якасці.

Хаця нашы пастаянныя заказчыкі якасцю задаволеныя. Нядаўна нашаму кліенту з Піцера спрабавалі даставіць кітайскія дыскі. Яны не вытрымліваюць канкурэнцыі, хаця ў 2-3 разы таннейшыя. Кліент прыслаў ліст з падзякай, што нашы дыскі добра працуюць у тэхніцы і вытворчасці.

**Калі завод стане, мы можам паралізаваць усё аўтатрактарнае машынабудаванне Беларусі і часткова Расіі.**

**– У чым спецыфіка заняпаду завода парашковай металургіі?**

– Усё машынабудаванне сёння ў глыбокім крызісе. На “Амкадоры” стаіць больш за тысячу нерэалізаваных пагрузчыкаў. А ў 2007-2008 гадах не паспявалі адгружаць.

Уся наша прадукцыя завязаная пад аўтатрактарнае машынабудаванне. Мы выпускаем дэталі, якія патрэбныя гэтай галіне. У нас жа кожны від дэталяў унікальны. Іх складана рабіць з цэльнага металу, таму робяць з металічнага парашку. Але кожная дэталь падыходзіць толькі для аднаго заказчыка. Вось дыскі для бабруйскага завода, вось для кіраўскага.

Складскія запасы на 2 мільярды, яшчэ з 90-х гадоў ёсць прадукцыя. Бо калі своечасова не прадасі, – гэтыя дэталі нікому не трэба. Іх не ўцэніш, не перапрадасі.

Па разліках, у студзені можна спрацаваць, каб атрымаць прыбытак ад вытворчасці. Але чысты прыбытак яшчэ не атрымаем. Штомесяц па крэдытах плацім 140 мільёнаў. За гэты год выплацілі працэнтаў па крэдытах на 1,3 мільярда, а гэта месячны абарот сыравіны.

**– Што трэба прадпрыемству, каб не дапусціць закрыцця?**

– Трэба працаваць, але чым больш мы працуем, тым большыя страты прыносім сабе. Рынак балансуе. Мы заваявалі рынак на 2,4-2,5 мільярда рублёў. Каб на ім ужыцца, прадукцыю пад такую суму павінны рабіць 150 чалавек, з выпрацоўкай на чалавека 120-150 мільёнаў рублёў.

Быў узровень у 50 мільярдаў выпрацоўкі прадукцыі на год, летась вырабілі на 40, а сёлета хаця б мы вырабілі на 30.

Палічылі, што нам, каб выйсці ў нулі, трэба пяць мільярдаў рублёў. Мы падпарадкоўваемся Акадэміі навук, адзінае іх прадпрыемства. Яны з разуменнем ставяцца да нашых праблем, але ці змогуць падтрымаць, не ведаю. Мы з надзеяй глядзім у будучыню, прымаем комплекс мер з тым, каб да сакавіка 2015 года выйсці на бясстратную работу.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Закрываць завод не плануюць

Сітуацыю пракаментаваў намеснік гендырэктара дзяржаўнага навуковавытворчага аб’яднання парашковай металургіі **Анатоль Рак**:

– Планаў закрыцця завода няма. Мы прымем усе меры, каб завод працаваў, і шукаем шляхі выйсця. Перспектыва залежыць ад працы работнікаў.

### Ці разбягуцца работнікі, калі завод будзе без інтэрната

На гэта пытанне мы папрасілі адказаць адну былую работніцу завода, якая звольнілася, але захавала інтэрнат:

– Для мяне гэта вялікае шчасце, што я захаваю жыллё. Звольнілася таму, што вельмі нізкія заробкі – пражытачны мінімум. Буду ўладкоўвацца ў буйную гандлёвую сетку. Многія ўдзячныя новаму дырэктару за рашэнне не забіраць інтэрнат, калі звальняешся.

Тых, хто застаецца на заводзе, трымае зручнасць – работа праз дарогу ад дому, зручны для многіх графік. Ды і ў многіх такая спецыялізацыя, што выбар работы невялікі. А некаторыя проста прывыклі і не хочуць перамен.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**28**

**26.10 – ДЗЕНЬ АЎТАМАБІЛІСТА**

**Столькі аўтамабіляў прыходзіцца на 100 жыхароў Беларусі**

По інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі

● ГРАМАДСТВА

# У Маладзечне будуюць новы арэндны дом

**МАЛАДЗЕЧНА. Начальнік аддзела жыллёвакамунальнай гаспадаркі райвыканкама Сяргей Бохан расказаў, што ўжо пачалі будаўніцтва яшчэ аднаго арэнднага дома ў мікрараёне Усходні. Дом будзе на 40 кватэр.**

Першы арэндны дом у Маладзечне месяцыў па вуліцы Лясная, 6.

Ад 13 да 28 кастрычніка можна падаваць заявы на тое, каб атрымаць кватэру ў гэтым доме.

Усяго ў ім 80 кватэр.

**Галіна СІНІЦА.**




Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ і Настасі РОЎДЫ.

● НАШЫ ГРОШЫ

# Дзеля новай кватэры настаўніцы трэба не есці 68 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. “Рэгіянальная газета” падлічыла, за які час прадстаўнікі розных прафесій змогуць сабраць грошы на ўласную кватэру.**

Адно з рыэлтарскіх агенцтваў у Маладзечне паведаміла, што аднапакаёвая кватэра каштуе ад 28 да 40 тысяч долараў. А двухпакаёвая – да 55 тысяч долараў. Цана залежыць ад таго, у якім стане кватэра, якога году пабудова, у якім яна раёне.

Атрымліваецца, калі цэны на жыллё і зарплаты будуць стаяць на месцы, настаўніца купіць сабе самую танную аднапакаёвую кватэру за 68 гадоў, будаўнік – за 35, а праграміст – за 18 гадоў.

Але ўлічвайце, што ў разлік мы не бралі выдаткі на харчаванне, адзенне, камунальныя паслугі. Таму колькасць гадоў, за якія вы збіраеце грошы на куплю жылля, можна падвоіць. Альбо прытрымлівацца дыеты да таго часу, пакуль ключы ад кватэры не будуць у кішэні.

### “На свой заробак не вельмі назбіраеш грошай”

Настаўніца англійскай мовы школы №12 **Ганна Тамковіч** за верасень зарабіла 3 мільёны 400 тысяч рублёў.

– У мяне 32 працоўныя гадзіны з 36 магчымых, – гаворыць дзяўчына. – Гэта амаль дзве стаўкі. Напэўна, гадоў 20 трэба збіраць грошы, каб купіць кватэру. На свой заробак не вельмі назбіраеш. Таму трэба падпрацоўваць альбо браць рэпетытарства.

Свой заробак дзяўчына траціць на ежу, адзенне і вучобу. Як сама яна прызнаецца, добра, што жыве з бацькамі – яны дапамагаюць. Пакуль маладой настаўніцы не ўдалося адкласці грошай, аднак яна будзе спрабаваць збіраць на кватэру.

### Зімой будаўнікі могуць сядзець без зарплаты

Будаўнікі, якія працуюць у кампаніях альбо самі на сябе, гавораць:

– Летам мы можам зарабіць ад васьмі да дзесяці мільёнаў рублёў за месяц. Зімой жа ўсе будоўлі замарожваюцца, а таму часам нічога не атрымліваем. У сярэднім зімой можна зарабіць ад двух да чатырох мільёнаў рублёў.

### Праграміст у Мінску зарабляе каля 30 мільёнаў

Маладзечанец, які працуе праграмістам у Мінску, сказаў, што зарабляе каля 30 мільёнаў рублёў у месяц. У асноўным заробак траціць на нанятую кватэру, машыну, ежу і адзенне.

Малады чалавек адзначае, калі грошы ні на што не траціць, то праз пару гадоў зможа набыць кватэру. Аднак пакуль ён не ставіць гэта сабе на мэту.

### Цэны на кватэры ў рэгіёне (тыс. долараў)

| Горад | 1-пакаёвая | 2-пакаёвая | 3-пакаёвая |
|---|---|---|---|
| Маладзечна | 28-40 | Да 55 | Да 60 |
| Вілейка Мядзел | Да 30 | Да 50 | Да 50 |
| Смаргонь | 25-27 | 33-35 | 43-45 |

А вось аб’яў прадаць кватэру ў Валожыне, Астраўцы і Ашмянах вельмі мала ў інтэрнэце. Не прапануюць кватэры ў гэтых гарадах і рыэлтарскія агенцтвы ў Маладзечне.

Апошнія расцэнкі на кватэры ў Валожыне можна знайсці за чэрвень. Амаль на ўсіх сайтах паўтараюцца адны і тыя ж аб’явы. Цэны ў іх на 1-пакаёвую і 2-пакаёвую кватэры не адрозніваюцца – 25 тысяч долараў, на трохпакаёвую – 27 і 56 тысяч долараў.

А вось у Астраўцы большасць кватэр не прадаюць, а здаюць на суткі. Гэта звязана з тым, што ідзе будоўля Беларускай атамнай станцыі. Многія прыезджыя шукаюць, дзе танней можна пасяліцца. Дарэчы, ні ў адной прагледжанай намі аб’яве не патрапіліся цэны на аднапакаёвую кватэру. Цэны на двухпакаёвую вагаюцца ад 35 да 40 тысяч долараў. На трохпакаёвую – ад 39 да 50 тысяч долараў.

**Галіна СІНІЦА.**

● ХАРЧАВАННЕ

## Кавалачкі поўсці і скуры ў шніцалі і беляшы. Як маладзечанцы паабедалі ў адным з кафэ горада

**МАЛАДЗЕЧНА. 28-гадовая Ірына Барыс расказвае, што пасля такога абеду ў яе быў шок. Яна нават забылася папрасіць Кнігу скаргаў. А яе сваякі так і не рашыліся з’есці беляшы, нават калі іх замянілі на іншыя.**

Запіс пра свой абед дзяўчына размясціла ў сацыяльных сетках.

### Поўсць падобная на мышыную альбо пацучыную

У той дзень у маладзечанскім кафэ Ірына заказала пюрэ, шніцаль, лустачку хлеба і фруктовы чай. Калі па звычцы яна пачала відэльцам адломваць кавалак шніцаля, то ўбачыла там поўсць. А як прыгледзелася, то ўбачыла яшчэ і скуру.

– Калі я не памыляюся, – заўважае дзяўчына. – Поўсць падобная на мышыную ці пацучыную.

Ірына адзначае:

– Гэта ўжо не першы выпадак! Учора мае сваякі зайшлі перакусіць у кафэ. Узялі сабе беляш. А там сюрпрыз – таксама камяк поўсці. Яны аднеслі гэта шчасце прадаўцы. Тая сказала, што гэта першы выпадак. А сама пачырванела ад сораму. Аднак не разгубілася і замяніла беляш. Ды толькі маім сваякам пасля такога расхацелася есці. Яны развярнуліся і пайшлі з кафэ.

### “Адкуль гэта поўсць, не можам сказаць”

**Тамара Мядзведская**, повар у кафэ, патлумачыла:

– Да нас сапраўды звярнуліся два чалавекі, якія знайшлі поўсць у стравах – у беляшы і ў шніцалі.

Адкуль гэтая поўсць, мы не можам сказаць. Фарш у кафэ мы не робім самастойна. Заказваем яго ў аднаго з мясакамбінатаў нашага рэгіёна. Магчыма, тушу, якая прызначалася на фарш, дрэнна абсмалілі. Таму і трапіўся кавалачак скуры з поўсцю.

Людзям, у стравы якіх папала поўсць, кафэ вярнула грошы.

### Прасіце Кнігу скаргаў

**Таццяна Кугара**, загадчыца аддзела гігіены харчавання Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, адзначыла, што ў такіх выпадках трэба выклікаць адміністратара. У Кнізе скаргаў і прапаноў запісаць тое, што не задавальняе ў абслугоўванні. Таксама паведаміць у цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

– Калі супрацоўнікі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі пачынаюць праверку пэўнай установы харчавання, то спачатку правяраюць Кнігу скаргаў і прапаноў, – адзначае Таццяна Кугара.

У цэнтры гігіены і эпідэміялогіі нам сказалі, што гэта кафэ чакае праверка ў лістападзе. Аб выніках яе “Рэгіянальная газета” раскажа пазней.

**Галіна СІНІЦА.**

| Курсы валют НБ РБ | 16.10 руб. | 23.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 660,00 | **10 680,00** |
| Еўра | 13 470,00 | **13 580,00** |
| Злоты | 3 206,21 | **3 212,03** |
| Літ | 3 908,13 | **3 926,11** |
| Расійскі рубель | 260,50 | **260,50** |
| Грыўня | 826,36 | **821,54** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13460/13700 | **13550/13700** |
| Долар ЗША | 10660/10730 | **10680/10800** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 15.10 | 22.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 51700 | **51700** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 98000 | **95000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | **14000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей “Масловія” | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6850 | **6850** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5000 | **4900** |
| Капуста, 1 кг | 2500 | **2000** |
| Морква, 1 кг | 5000 | **4500** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 25000 | **23500** |
| Апельсіны, 1 кг | 26500 | **16500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27500 | **27000** |
| Памідоры, 1 кг | 18500 | **19000** |
| Агуркі, 1 кг | 25900 | **23900** |
| Перац, 1 кг | 15900 | **17000** |
| Кавун, 1 кг | 7000 | **6500** |
| Дыня, 1 кг | 15000 | **14000** |
| Вінаград, 1 кг | 15500 | **16000** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **14500** |
| Яблыкі, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 18900 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

 





Фота dcp.sovserv.ru

Рэакцыя жыхароў дома №159 па Вялікім Гасцінцы ў Маладзечне на знойдзеную невядомую канструкцыю была прыкладна такая, як у героя Джыма Керы з вядомага кінафільма "Маска". Яны адчулі небяспеку і неадкладна выклікалі міліцыю.

● ЗДАРЭННІ

# Выбухоўка аказалася вяндлярняй

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 21 кастрычніка а 13 гадзіне па Вялікім Гасцінцы, 159. Жыхары дома ўбачылі ў пад'ездзе падазроны прадмет.**

Выклікалі міліцыю, службу МНС і сапёраў. "Бомбу" застаўся сцерагчы жыхар пад'езда, акцёр і рэжысёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Андрыян Барткевіч.**

Ён і быў першым, хто заўважыў гэты прадмет.

Прыкладна ў гадзіну дня яны з жонкай вярталіся дамоў. У пад'ездзе і заўважылі металічную скрыню, але прайшлі міма. Праз хвілін дзесяць Андрыян выйшаў на лесвічную пляцоўку.

Побач з падазроным кантэйнерам стаяў яго сусед **Аляксандр Маршалковіч.** Ён падзяліўся сваімі назіраннямі, што скрыня з іржавага, старога металу, а накрыўка да яе прыкручаная абсалютна новенькімі, быццам толькі з крамы, балтамі.

Аляксандр Маршалковіч прыняў рашэнне выклікаць міліцыю.

Супрацоўнікі прыехалі ў лічаныя хвіліны. Прайшліся па кватэрах пад'езда, шукалі гаспадара канструкцыі. Падазроная рэч аказалася нічыйнай. Пасля гэтага эвакуявалі жыхароў дома.

Жонка Андрыяна Барткевіча ў гэты час на кухні гатавала абед. Яна спыталася ў мужа, а што ёй рабіць?

Андрыян адказаў:

– Маліся і вары далей!

Але праз хвіліну вырашыў, што ўсё ж такі трэба ратаваць жонку.

На лавачцы ля пад'езда сабраліся жыхары дома. Час быў рабочы, таму ў пад'ездзе аказалася толькі чалавек 15.

Услед за міліцыяй прыехала "хуткая дапамога", МНС і ваенныя. Выклікалі сапёраў з Мінска. Яны былі на месцы прыкладна а 16-й гадзіне.

У пад'езд разам з сапёрамі зайшоў службовы сабака.

– Сабака панюхаў і сказаў, што ў скрыні нічога няма, – з усмешкай каментуе акцёр.

Сапёры тады без спецыяльнай тэхнікі наўпрост адкруцілі балты ў скрыні, якая аказалася звычайнай вяндлярняй.

Але гаспадар яе пакуль так і не знайшоўся.

У дзяжурнай службе МНС інфармацыю пацвердзілі.

**Наталля ТУР.**

## Загінулі двое маладзечанцаў у аварыі ў Мінскім раёне

**МАЛАДЗЕЧНА.** Адзін памёр на месцы, другі – па дарозе ў бальніцу.

Здарэнне адбылося 15 кастрычніка ў 7:30 на аўтадарозе "Заслаўе-Дзяржынск-Возера" паблізу пасёлка Крылова Мінскага раёна.

30-гадовы маладзечанец на асабістым аўто "Хундай-Акцэнт" на закругленні дарогі ўлева не справіўся з кіраваннем і выехаў на паласу сустрэчнага руху. Ён сутыкнуўся з машынай ГАЗ-33023, якая рухалася ў сустрэчным напрамку.

У выніку ДТЗ 42-гадовы пасажыр аўтамабіля "Хундай", жыхар Чысці Маладзечанскага раёна, загінуў на месцы.

Кіроўца памёр па дарозе ў лячэбную ўстанову.

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра здарэнне паведаміў начальнік штаба Маладзечанскага РАУС **Яўген Беркутаў.**

## Угнаную машыну знайшлі аднавяскоўцы

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА.** У Куранцы на Вілейшчыне знікла аўтамашына "Опель-Аскона". Адбылося гэта ад 8 гадзін вечара 13 кастрычніка да 8 гадзін наступнай раніцы. Стаяла машына на абочыне насупраць дома.

Удзень 14 кастрычніка аўтамабіль знайшлі ў мястэчку Радашкавічы Маладзечанскага раёна. Людзі з Куранца праязджалі тут і ўбачылі на з'ездзе з аўтадарогі машыну, якая ім падалася падобнай на ўгнаную. Яны патэлефанавалі пацярпеламу. Здагадка пацвердзілася: гэта была тая машына.

У Радашкавічах непадалёку ад "Опеля" затрымалі 30-гадовага жыхара Куранца. Ён неаднаразова судзімы.

Па факце ўгону ўзбудзілі крымінальную справу, расказаў старшы следчы Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Аляксандр Путырскі.**

**Аддзел інфармацыі.**

## П'яны бацька парэзаў сына

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пра гэта ў міліцыю паведамілі з прыёмнага пакоя "хуткай дапамогі" ў панядзелак ноччу, 20 кастрычніка.

– 24-гадовы маладзён прыйшоў дадому і хацеў легчы спаць, – кажа старшы следчы Маладзечанскага следчага камітэта **Юры Міхновіч.** – П'яны бацька без ніякіх прычын стаў лезці да сына з кулакамі.

Мужчына адбіўся, выгнаў яго са свайго пакоя і лёг спаць. 49-гадовы бацька не супакоіўся і прыйшоў да сына з нажом.

– Нанёс чатыры ўдары ў галаву і тулава, – распавядае намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў.**

Мужчына затрыманы. У яго іншая версія, ён кажа, што сын сам на яго напаў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## 50-гадовы маладзечанец заснуў – згарэла ежа і кухня

**МАЛАДЗЕЧНА.** У 11 гадзін вечара ў Маладзечне па вуліцы Драздовіча адбыўся пажар.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца здарэння, убачылі, што з акна ідзе дым. Мужчыну знайшлі на ложку.

У выніку пажару закураныя сцены, пашкоджаная мэбля на кухні.

Гаспадар кватэры часова не працаваў, жыў адзін.

Пра здарэнне распавяла інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Таратута.**

**Галіна СІНІЦА.**

● ВІДАВОЧЦЫ

# Як спайс сцірае чалавечнасць

**ВІЛЬНЯ. Для Беларусі праблема наркотыкаў з кожным днём становіцца больш вострай. Рэгулярна з'яўляюцца навіны пра "абкураных" дзяцей, якія ўяўляюць сябе жывёламі, выколваюць вочы ці забіваюць сябе ў наркатычным экстазе.**

Усе тыя жахі, якія для беларусаў яшчэ пяць год таму былі надзвычайнымі, так хутка сталі звыклай і ў той жа час шакуючай рэальнасцю.

Як змагацца са спайсамі, якія захлынулі сучасную моладзь, не ведаюць не толькі бацькі, але і дактары, і нават міліцыя. Хімічны склад наркатычных сумесяў спайсу разнастайны і мяняецца пастаянна. Як толькі забараняюць пэўны хімічны склад спайсу, узнікае новы. З формулай, якую яшчэ не ўнеслі ў забарону. Прадугледзець, які новы наркотык ўздзейнічае на чалавека і як ад гэтага лячыць, надзвычай складана.

Спайс – гэта хімічна сінтэзаваны наркотык, які можа выглядаць як заўгодна, нават як лісце кропу або пятрушкі, апырсканыя хімічным растворам.

### Пойдзем глядзець наркаманаў

Нядаўна я была ў гасцях у свайго сябра **Робертаса** ў Вільні. Карыстаючыся выпадкам, вырашыла даведацца, ці лёгка ў літоўскай сталіцы можна набыць спайс.

Я ўгаварыла сябра пайсці са мной, і мы рушылі на прагулку па клубах і барах Вільні.

Без Робертаса я б ніколі не знайшла тое, што шукала.

Да нас далучыліся яго сябры Яўгеніюс і Раман. Робертас сказаў:

– Ну што, пойдзем глядзець наркаманаў, а сябры мае так, на ўсялякі выпадак.

Вільня прыцягвае турыстаў, яна багатая на гістарычныя, цікавыя месцы. Але варта зайсці ў двары (галоўнае, ведаць, у якія), і ты апынаешся ў зусім іншай атмасферы.

Мы прайшлі праз вароты паўзакінутага завода, было вельмі цёмна і ціха. Робертас распавёў, што гэта старыя лофты (пустыя цэхі), якія не выкарыстоўваюць з часоў СССР. Іх выкупляюць прыватнікі.

Неўзабаве мы прыйшлі да аднаго з такіх лофтаў, дзе месціўся начны клуб. Адразу было відаць, што тут штосьці не так: каля ўваходу стаялі людзі з пустымі, рыбінымі вачыма.

Мы падышлі да іх. Хлопцы прапанавалі нам спайс. Робертас патрос пакецікам, у які загадзя паклаў лісты чаю, і сказаў, што мы маем сваё. Раман дадаў:

– Давай прапускай, халодны.

Нас неахвотна, але прапусцілі ўнутр.

Як мне патлумачылі, калі б мы не паказалі наркотыкі – ахова западозрыла б у нас паліцыю. Я спытала, што азначае "халодны". Так называюць абкураных спайсам, якія выглядаюць як нежывыя, халодныя, як труп.

Спусціўшыся ўніз, я зразумела гэта.

Людзі валяліся ўсюды, поўзалі, ляжалі, пускалі сліну. Я змагла там прабыць дзесяць хвілін, і за гэты час мне разоў 10 прапаноўвалі купіць рознага спайсу, па 20 літ за грам (каля 80 тысяч рублёў). Я не змагла на гэта глядзець, і мы пайшлі з гэтага жудаснага месца.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

### Якая адказнасць за выраб ці збыт наркотыкаў

| Краіна | Злачынства | Пакаранне |
|---|---|---|
| Беларусь | Незаконны без мэты збыту выраб, перапрацоўка, набыццё, захоўванне, перавозка або перасылка наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў або іх аналагаў | Караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 5 гадоў |
| | Тыя ж дзеянні, зробленыя з мэтай збыту | Пазбаўленнем волі да 8 гадоў |
| Літва | Незаконны з мэтай збыту ці распаўсюджвання выраб, перапрацоўка, набыццё, захоўванне, перавозка або перасылка наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў | Караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 8 гадоў |
| | Тыя ж дзеянні з вялікай колькасцю наркатычных сродкаў з мэтай збыту | Караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 10 гадоў |



 

# Выпускнікі гімназіі №7 у медыцыну ідуць цэлымі класамі

**МАЛАДЗЕЧНА. “Нашымі выпускнікамі можна ўкамплектаваць дзве бальніцы”, – пачынае размову настаўніца гісторыі гімназіі №7 Ірына Сушко.**

Настолькі шмат выпускнікоў гімназіі звязалі сваю дзейнасць з медыцынай.

Пахваліцца гісторыяй гімназіі і яе выпускнікамі Ірына Сушко вырашыла невыпадкова. У кастрычніку гімназія №7 адзначае сваё 70-годдзе. Цудоўная нагода ўспомніць самыя яскравыя старонкі гісторыі.

Да юбілейнай даты ў гімназіі часова пачаў працаваць музей гісторыі школы. Стваральнікі музея вырашылі аб'яднаць у адным памяшканні старонкі гісторыі, каб паказаць цяперашнім вучням, што роднай школай можна ганарыцца.

Фотаздымкі, граматы, загады, іншыя дакументы і артэфакты склалі экспазіцыю музея.

Ірына Сушко цяпер праводзіць тут экскурсіі як для вучняў школы, так і для іх бацькоў. Вядома, самыя каштоўныя экспанаты тут – гэта фотаздымкі, якія збіралі ўсёй школай. Нехта прыносіў здымкі сваіх бацькоў, суседзяў, настаўнікаў. З адным з такіх здымкаў звязаная шчымлівая гісторыя, якую прыгадала экскурсавод.

На фотаздымку 1987 года маці цяперашняй адзінаццацікласніцы пазнала сябе. **Ірэна Селіцкая**, так завуць жанчыну, прызналася Ірыне Сушко, што 7-я гімназія значыць для яе вельмі многа. 11 гадоў таму ёй трэба было весці дачку ў школу. А быў перыяд, калі ў гімназіі не набіралі пачатковых класаў. Тады школа была ліцэем. І Ірэна вымушаная была аддаць дачку ў іншую школу. Але 1 верасня прывяла яе на лінейку ў 7-ю. Жанчына стаяла і плакала ад таго, што першы званочак давала не першакласніца і што такой атмасферы, якая панавала ў яе роднай школе, няма нідзе ў свеце.

### Школьныя загады за 70 год не змяніліся

З асаблівым гонарам Ірына Сушко расказвае пра стэнд, які прысвечаны выпускнікам гімназіі.

**За 70-гадовую гісторыю школа выпусціла каля 3000 чалавек.**

Сярод выпускнікоў – артысты, кампазітары, пісьменнікі, вучоныя і, канешне ж, дактары.

– Нашымі выпускнікамі можна ўкамплектаваць дзве бальніцы, столькі дактароў розных спецыяльнасцяў выхавала наша школа! – гаворыць Ірына Сушко. – У 2009 годзе, напрыклад, было 23 выпускнікі, і 22 з іх паступілі ў медыцынскія навучальныя ўстановы.

Самыя старыя экспанаты музея адносяцца да года стварэння школы.


Фота Наталлі ТУР.

Экскурсіі па новым музеі ладзяць у першую чаргу для вучняў гімназіі. На здымку вучні 3 “Б” класа разглядаюць граматы і фотаздымкі лепшых выпускнікоў.

На фотаздымках 1944 года першыя вучні і першыя настаўнікі. А першыя загады, падпісаныя тагачасным дырэктарам, адносяцца да 1945 года. У адным з іх было напісана, што прыход на працу за 2-3 хвіліны да званка з'яўляецца грубым дысцыплінарным парушэннем. І самы позні тэрмін, у які павінен прыйсці настаўнік, гэта за 15 хвілін па пачатку ўрока.

**Першы будынак школы быў драўляны. І тады гімназія называлася сярэдняй школай №10 Беластоцкай чыгункі.**

Гэты загад чытаем разам з намеснікам дырэктра на навучальнай рабоце **Таццянай Буйко**. Прачытаўшы, завуч вымае фразу: “А за 70 год нічога ж не змянілася! Мы заўсёды на працы за 15, а то і за 30 хвілін”.

І тут жа дадае:

– А можа, гэта і добра, што не змянілася тое, што па-ранейшаму ў нашай гімназіі жывуць шматгадовыя традыцыі. Як і 70 гадоў таму тут вучацца і працуюць таленавітыя людзі.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

● ТЭАТР

# “Афінскія вечары”. Што ні спектакль, то аншлаг

**МАЛАДЗЕЧНА. Смелыя жартачкі і непрыстойна гучны смех. Карэспандэнты “РГ” наведалі трэці паказ прэм’ернага спектакля “Афінскія вечары” ў Мінскім абласным драмтэатры.**

За 15 хвілін да пачатку мы набываем апошнія два білеты. Сёння аншлаг.

– Ужо трэці раз! – заўважае жанчына, якая сустракае наведнікаў тэатра.

У фае збіраецца публіка. Маладыя дзяўчаты, сямейныя пары, сталыя людзі. Мужчын мала.

**Спектакль “Афінскія вечары” пастаўлены па аднайменнай п’есе расійскага драматурга Пятра Гладзіліна. Рэжысёр-пастаноўшчык – заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Валеры Анісенка. Жанр – сучасная гісторыя.**

На кім трымаецца п’еса, становіцца зразумелым, калі на сцэне з’ўляецца бабуля. Здаецца, менавіта яна, а не яе дачка ці ўнучка – адлюстраванне сучаснасці.

У яе няма ўнутраных межаў. Яна ведае, што жыццё – рэч хуткабежная. Таму і не збіраецца разменьвацца на сумнае “правільнае” існаванне, змагацца з якім дапамагае вострае, яскравае пачуццё гумару.

І ў яе няма боязі. Ні перад кім і ні перад чым. Нават самой смерцю.

**Бабулю Ганну Паўлаўну іграе Алена Рахмангулава. Яе дачку Людмілу – Ірына Камышава. Ролю Барыса, мужа дачкі, – Сяргей Карзей. Унучку Наташу – Аляксандра Грасевіч. А каханага Наташы Антона Гольдэнвейзера – Павел Святоха.**

Уявіце высокаінтэлігентную сям’ю.

Бацька, музычны тэарэтык, з дзяцінства прывучаў сваю адзіную дачку да класічнай музыкі і марыў, каб тая стала знакамітай геніяльнай піяністкай.

Жонка, якая хаваецца за спіной моцнага мужа, нікому ў сям’і не дазваляе не тое, што рабіць, а нават думаць не так, як ён.

І дачка. Ёй 18 гадоў. Яна сапраўды, як і хацеў бацька, займаецца музыкай, вучыцца ў кансерваторыі, выступае на конкурсах. Аднак мае сваё меркаванне, хоча жыць па-свойму і самастойна прымаць рашэнні. Сітуацыя ўжо канфліктная. А тут яшчэ Наташа зацяжарвае. Антон гатовы з ёй ажаніцца, тая ж ніяк не можа сказаць бацькам пра сваё цікавае становішча.

І невядома, чым бы скончылася гэта гісторыя, каб не было бабулі, якая якраз у гэты час прыехала ў госці на тры дні.

### Водгукі наведнікаў спектакля

**Святлана Макурына** з дачкой **Ксеніяй**:

– Мы з Расіі прыехалі. У спектаклі іграе сястра майго мужа. Вельмі спадабалася нам. У прынцыпе, як і ўсё іншае, што мы раней тут глядзелі. Заўсёды, калі прыязджаем, наведваем ваш тэатр.

**Таццяна Сянько:**

– Цудоўная пастаноўка! Ад яе засталіся толькі добрыя ўражанні. Акцёры выдатна іграюць, тэма актуальная. Сучасны запатрабаваны спектакль.

**Анастасія і Сяргей Колбуны:**

– Гумар альбо ёсць, альбо яго няма. Тут ён ёсць. У гэтым спектаклі бабуля вельмі добра іграе. Таленавітая актрыса. За якую ролю не возьмецца, усё атрымліваецца. Мы частыя госці ў тэатры. Амаль на ўсе спектаклі ходзім.

### Каментуе рэжысёр

Паставіць “Афінскія вечары” дырэктару-мастацкаму кіраўніку Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра Якуба Коласа Валерыю Анісенку прапанаваў дырэктар Мінскага абласнога драмтэатра **Юры Крывенькі**.

Калі мы патэлефанавалі спадару Валерыю, ён вельмі ўсцешыўся, даведаўшыся, што пастаноўка збірае аншлагі.

– Калі ставіш спектакль, не думаеш пра аншлагі. Вядома, хочацца станоўчых вынікаў. Я вельмі рады за выбар п’есы, за акцёраў.

Чыя роля ў спектаклі галоўная, рэжысёр прапануе паразважаць гледачу. Сам жа называе гэта таямніцай тэатра. І раз столькі людзей прыходзіць, мяркую, што выказаўся выразна.

А ролю маці Наташы лічыць паказальнай. Кожны мусіць паглядзець на сябе. Такіх, як гэта маці, пруд-прудзі. Яны аддаюць сябе мужу, сям’і, а ў выніку застаюцца адны. Іх ніхто не разумее.

Гэта сённяшняя п’еса на сённяшняй зразумелай мове, дзе кожны можа ўбачыць у ёй сябе альбо сваіх блізкіх.



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Сцэна са спектакля “Афінскія вечары”, які ідзе ў Мінскім абласным драмтэатры. Ганна Паўлаўна (Алена Рахмангулава) падтрымлівае сваю ўнучку Наташу (Аляксандра Грасевіч).**

## Выбраныя сцэны са спектакля

Барыс павучае дачку, што нельга крыўдаваць на бацьку за тое, што ён не дазваляе сустракацца з хлопцамі. І звяртаецца да бабулі, каб тая распавяла пра часы сваёй маладосці, калі ўвогуле дзяўчыне адной не дазвалялі нікуды выходзіць.

А тая прыгадвае “Афінскія вечары”. Калі яны тайком уцякалі з дома на сустрэчы, дзе займаліся “оргіазмамі”. Ганна Паўлаўна пасля ўдакладніла ўнучцы, што на такіх сустрэчах яны проста пілі віно ды цалаваліся. Для іншых членаў сям’і яна пакінула версію “оргіяў” у прамым сэнсе гэтага слова.

***

Калі Антон прыйшоў прасіць рукі Наташы, Барыс паставіў яму ўмову. У выпадку, калі ён закахаецца ў іншую дзяўчыну, мусіць вырваць сабе вока.

Ганна Паўлаўна падышла да такой заявы з гумарам: “Выходжу я сёння на вуліцу, а там мільёны аднавокіх мужчын! Смела ўлюбляйцеся!”

***

Калі Барыс напярэдадні ад’езду цёшчы захацеў выгаварыцца і пачаў патрабаваць, каб дачка зрабіла аборт, цешча загарадзіла яе спінай і гучна звярнулася:

“Э! Фраерок! Я ця шчас у валёнак закатаю!”

***

Ганна Паўлаўна сказала ўнучцы, што збіраецца пайсці на той свет і нарадзіцца яе дачкой. Усцешылася, даведаўшыся прозвішча яе будучага бацькі. І папрасіла назваць яе Люсяй. Люсяй Гольдэнвейзер.

А пасля дадала, што яна падасць знак Наташы, калі народзіцца: падміргне правым вокам.

Дарэчы, напрыканцы спектакля бабуля памірае. Наташа пра гэта нічога не ведае. І здагадваецца толькі тады, калі яе немаўлятка ёй падміргвае.



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Мастак Алег Драбышэўскі.**

● МАСТАЦТВА

## Мастак падарыў музею карціну

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы 9 кастрычніка прайшла сустрэча з мастаком Алегам Драбышэўскім.**

Ён – ураджэнец Астравеччыны. Родам з вёскі Табарышкі – зараз гэта адна з вуліц пасёлка Гудагай. Цяпер творца жыве і працуе ў Мінску.

Астравеччыне мастак прысвяціў багата карцін. На мерапрыемстве ён паказаў 10.

– Сёлета прайшло дзесяць год ад 500-годдзя Будслава. Хацеў нагадаць дату.

Будслаў і яго святыня – асаблівая старонка ў творчасці мастака. Пачалася яна з фэсту.

– Прыехаў у Крывічы да сябра **Генадзя Скурко**, дождж ішоў, – прыгадвае мастак. – Думаю, які ж там фэст будзе? Прыехалі ў Будслаў, а дажджу няма. Да трох ночы тады былі. І толькі як пераехалі мост праз Сэрвач, зноўку пачаўся.

Спачатку мастак напісаў карціну “Будслаўская святыня”.

– Яна з’явілася пасля той працэсіі ўначы, калі было адчуванне, што ў вышыні ёсць такая дабрыня, святло.

Калі творца рыхтаваўся да выставы, прысвечанай 500-годдзю Будслава, у цэнтры імя Скарыны ў Мінску, вырашыў напісаць яшчэ творы. З’явіліся карціны “Цішыня Сэрвачы” і “Будслаў”. Апошнюю мастак падарыў музею.

– Толькі што дождж прайшоў, туманчык. Крыжы касцёла бачыцам насычаныя паветрам і з’яўляюцца як адным цэлым, – апісвае мастак твор. – Карціны – гэта ўсе мае дзеткі. Але ж гэта нікуды не дзелася: як была, так і ёсць. Толькі цяпер не ў майстэрні, а ў музеі.

Сустрэча адбылася ў межах мерапрыемства, прысвечанага тыдню маці. Спяваў хор мядзельскага касцёла Маці Божай Шкаплернай.

Напрыканцы мастак прапанаваў мядзяльчанам дапамагчы прыдумаць назвы да новых карцін. Змогуць далучыцца і нашы чытачы. У адным з бліжэйшых нумароў пазнаёмім з дзвюма карцінамі, звязанымі з Астравеччынай. Вы зможаце даслаць свае прапановы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ЗДАРЭННІ

## Заплаціў больш за 43 мільёны рублёў падатку

**ВІЛЕЙКА. Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Беларусі па Вілейскім раёне знайшла віляйчаніна, выдаткі якога на 360 мільёнаў рублёў перавысілі даходы.**

Яго заўважыла падатковая, калі купляў кватэру і машыну. Мужчына цягам некалькіх гадоў не меў афіцыйных крыніц даходу.

Па выніках праверкі высветлілася, што жыхар Вілейскага раёна патраціў на 360 мільёнаў рублёў больш, чым афіцыйна атрымаў.

Прад'яўлены падаходны падатак – больш за 43 мільёны рублёў – віляйчанін выплаціў у бюджэт.

Пра гэта паведаміў намеснік начальніка інспекцыі па Мінскай вобласці **Андрэй Сабалеўскі**.

**Паводле БЕЛТА.**

## Выратавалі двух рыбакоў

**ВІЛЕЙКА. У сем гадзін вечара 16 кастрычніка паступіла паведамленне, што на Вілейскім вадасховішчы тонуць людзі. Крыкі аб дапамозе пачулі рыбакі.**

Адбывалася гэта на Вязынскай затоцы, насупраць вёскі Рабунь. На катары туды накіраваліся супрацоўнікі Вілейскай выратавальнай станцыі.

– Знайшлі двух чалавек. Яны трымаліся за лодку, – расказаў начальнік выратавальнай станцыі **Аляксандр Роўда**.

Пацярпелых шпіталізавалі з дыягназам "агульнае пераахаладжэнне". Апынуліся ў вадзе два жыхары Мінска. Аднаму – 51, другому – 59 год.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

# Пайшоў на немцаў з мінай у кошыку

**ВІЛЕЙКА. Сёлета ў вёсцы Малькевічы Крывасельскага сельсавета ўсталявалі помнік партызану да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Леанід Малькевіч загінуў падчас задання ў Вялікую Айчынную вайну.



Лаўрэнцій Юльянавіч Малькевіч і Любоў Уладзіміраўна Малькевіч – стрыечныя брат і сястра Леаніда Малькевіча.

Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ.

## Узяла сям'я стрыечнай сястры

Леанід Малькевіч нарадзіўся 9 лістапада 1922 года ў вёсцы Кішкарэпы, якую ў 1967 годзе перайменавалі ў вёску Малькевічы (была праграма па змяненні назваў вёсак, калі тыя гучалі нібыта непрыгожа). Дзяцінства хлопчыка, як расказвае яго стрыечная сястра **Любоў Малькевіч**, было нялёгкае. Дзіцяці яшчэ не было і года, як памерла маці.

– Неўзабаве бацька ажаніўся з іншай жанчынай, – распавядае Любоў. – Пасля Лёня жыў з намі. Мы яго любілі, еў ён тое, што і мы самі, шкада яго было. Пайшоў у школу, вучыўся надта добра. Закончыў чатыры класы.

У 1940 годзе Леанід паступіў ў Беластоцкі чыгуначны тэхнікум. Добра вучыўся і там.

## Паліцаі катавалі і паўжывога павесілі

Пачалася вайна. Аб далейшай вучобе не магло быць і гаворкі. З цяжкасцю дабраўся хлопец да роднага дому.

Даведаўся, што ў суседняй вёсцы Губы і іншых жывуць ваеннапалонныя, што выйшлі з акружэння. Пазнаёміўся, хутка арганізавалі невялікую баявую групу.

– Вясной 1944 года партызаны далі Леаніду заданне – даставіць міну ў Куранец, каб падарваць штаб гарнізона нямецкай арміі. Ён і паклаў міну ў кошычку, прыкрыў зверху яйкамі. Але па дарозе яго злавілі паліцаі. Завезлі у турму Вілейкі, доўга катавалі. Але ён не выдаў сваіх таварышаў. Тады, ужо паўжывога, яго павесілі на дрэве пры дарозе з Вілейкі на Куранец, – расказвае Любоў Малькевіч.

Потым ужо дазволілі родным пахаваць Леаніда на могілках у вёсцы Стражы.

## Месца памяці стварылі талакой

Помнік партызану ўсталявалі 4 ліпеня. Яго паставілі на месцы дома, дзе жыў Леанід. Хату знеслі, і месца пуставала, наватператварылася ў звалку. Знайшліся мясцовыя жыхары, якія былі неабыякавыя да гісторыі партызана. Самі вяскоўцы пачысцілі месца, прыбралі смецце.

У рабоце з помнікам дапамагалі вяскоўцы. Усталявалі металічную канструкцыю, мемарыяльную дошку, добраўпарадкавалі тэрыторыю. Значную дапамогу аказала старшыня Крывасельскага сельсавета **Ірына Супрановіч**.

Арганізацыйнымі пытаннямі займаліся старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава** і былы пілот грамадзянскай авіяцыі **Лілія Златарова.** Яна была камандзірам самалёта, на яе ліку тысячы кіламетраў і гадзін авіярэйсаў, майстар спорту, суддзя Міжнароднай катэгорыі па верталётным спорце, жыве ў Расіі.

Вольга Коласава – стрыечная пляменніца Леаніда Малькевіча.

Ля помніка стаіць калодзеж, лавачкі, каб пасядзець. Побач пасадзілі маладое дрэўца.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ, школа маладога журналіста пры рэдакцыі "РГ".**

**Аўтар дзякуе старшай навуковай супрацоўніцы Вілейскага краязнаўчага музея за дапамогу ў рабоце над матэрыялам.**



Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ.

Леанід Малькевіч.

КАЛЯНДАР

**24 кастрычніка.** 1656 год. Падпісанае Віленскае перамір'е паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай аб спыненні вайны, якая пачалася ў 1654 годзе.

***

**25 кастрычніка.** 90 гадоў назад (1924) ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне аб выданні ў Беларусі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Полымя".

***

**425 год** з дня нараджэння (1589) Яна Станіслава Сапегі, сына Льва Сапегі, дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

***

**1991 год.** У Нью-Ёрку (ЗША) памёр Антось Галіна (сапр. Міхась Міцкевіч), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША, брат Якуба Коласа. Пахаваны на беларускай частцы могілак у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

***

**27 кастрычніка.** 1430 год. Памёр вялікі князь Вітаўт. Нарадзіўся ў 1350 годзе.

***

**1890 год.** Нарадзіўся Віктар Шутовіч (в. Шутавічы, цяпер Смаргонскі р-н), культурны дзеяч, каталіцкі святар, вязень савецкіх канцлагераў.

***

**28 кастрычніка.** 130 гадоў з дня нараджэння Флярыяна Ждановіча (1884 – 1937), беларускага акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

***

**28-30 кастрычніка.** 75 гадоў назад (1939) у Беластоку адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі, які прыняў дэкларацыю аб устанаўленні савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі.

***

**29 кастрычніка.** 1996 год. У Празе (Чэхія) на Градчанах устаноўлены помнік Францыску Скарыну (скульптар Астаф'еў), а на будынку нацыянальнай чэшскай бібліятэкі Клеменцінум – памятная дошка ў гонар беларускага першадрукара (скульптар Алесь Дранец).

***

**30 кастрычніка.** 1883 год. Нарадзіўся Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч; в. Лакцяны, цяпер Астравецкі р-н), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт.

***

**1921 год.** У Мінску заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

***

**1936 год.** Памёр Фердынанд Рушчыц, польскі і беларускі мастак, педагог, дэкаратар. Нарадзіўся ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета, цяпер Валожынскі раён. Пахаваны на мясцовых могілках.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Віленская студэнцкая газета "25 сакавіка"



Дзіўная рэч! Старыя падшыўкі можна гартаць і ў інтэрнэце. На яго бязмежных прасторах я знайшоў невялічкае выданне. Беларускія студэнты Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў міжваенны час былі згуртаваны ў беларускі студэнцкі саюз (БСС), які ў 1936 годзе пачаў выпускаць сваю газету "25 сакавіка". Шкада толькі, што камп'ютарны манітор не дае магчымасці адчуць пах дзесяцігоддзяў, якія хаваецца ў сапраўдных газетных стэлажах.

Газета выдавалася на беларускай лацінцы, скончыла сваё існаванне ў 1939 годзе.

Ці згадваліся на невялічкіх старонках – першы нумар выйшаў на 16-ці старонках часопіснага фармату – прозвішчы нашых землякоў?

У першым нумары ў раздзеле хронікі згадалі маладога Максіма Танка. Тады ўраджэнцу Пількаўшчыны Вілейскага павета было 24 гады. Дзесяцціцю гадкамі раней ён, падлетак Яўген Скурко, паступіў у гімназію ў Вілейцы. А ў 1936-м ужо быў дастаткова вядомым паэтам з гучным псеўданімам, які стаў урэшце больш значным, чым прозвішча.

"25 сакавіка" піша: "24.X. сёлета а гадзіне 21 адбылася ў Б.С.С. таварыская запазнаўчая гарбатка для сяброў і сімпатыкаў Б.С.С. Вечарына складалася з дзвюх частак: гарбаткі, у час якой акалічнасцёвыя прамовы мелі старшыня Б.С.С. магістр Хворасt, П.Засім, аўтарэцытаваў гумарыстычныя вершы паэт Танк. Хор Р.Шырмы дапоўніў гэту частку. У другой частцы адбыліся беларускія народныя скокі".

Запазнаўчая, сімпатыкі, акалічнасцёвы, аўтарэцытацыя – словы для вуха сённяшняга беларуса не вельмі звыклыя, але зразумелыя. Яны не могуць перашкодзіць зразумець змест публікацыі.

Чым жылі віленскія студэнты-беларусы яшчэ? Сачыце за нашай газетай.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**




Вілейка ў час Першай сусветнай вайны. Рускія салдаты і беларускія дзеці.

ГІСТОРЫЯ

# Дзевяць краін сабралі на канферэнцыі

**ВІЛЕЙКА. "Вось тут салдаты ўжо не па форме апранутыя, бачна, ужо разлажэнне на фронце пайшло", – каментавалі навукоўцы фотаздымкі часоў Першай сусветнай вайны.**

А сабраліся гісторыкі на міжнародную навуковую канферэнцыю "Першая сусветная вайна ў гістарычных лёсах Еўропы". Прайшла яна 18 кастрычніка ў Вілейцы.

У канферэнцыі ўдзельнічала каля 140 навукоўцаў з дзевяці краін. У тым ліку – з Беларусі, Расіі, Украіны, Славакіі, Польшчы, Казахстана, Вялікабрытаніі.

Адразу гісторыкі наведалі мемарыяльны комплекс "Памяці падзей Першай сусветнай вайны" ў Забродздзі, памятныя мясціны ля Рускага Сяла.

### Прымірэнчая выстава і дзённікі салдатаў

Першае, што бачылі ўдзельнікі ў Вілейскім райвыканкаме, – здымкі з калекцыі **Уладзіміра Ліхадзедава**.

– Прынцып выставы такі: на ёй адлюстраваны погляд і рускага салдата, і нямецкага. Ці гэта баявыя дзеянні, ці нейкія бытавыя сцэны, як палявая кухня, – тлумачыць ён. – Гэта такая прымірэнчая выстава, якая паказвае не толькі жудасці вайны, але і салдатаў дзвюх армій. Выстава экспанавалася ў Германіі, Францыі, Польшчы, Расіі. Тут здымкі з розных куткоў Беларусі, ёсць і з Вілейкі.

На пленарным пасяджэнні прывіталі ўдзельнікаў канферэнцыі міністр адукацыі Беларусі **Сяргей Маскевіч**, намеснік старшыні Мінаблвыканкама **Аляксандр Юшкевіч**, старшыня Вілейскага райвыканкама **Віктар Кот**. У іх выступленнях неаднойчы гучалі падзякі тым людзям, якія захоўваюць гістарычную памяць на Вілейшчыне.

Далей слова перайшло да навукоўцаў. Некаторыя з дакладчыкаў прызнаваліся, што знаходзіліся пад уражаннем таго, што зрабіў у Забродздзі краязнаўца і мастак **Барыс Цітовіч.**

А ён расказаў, як зберагаюцца сляды Першай сусветнай на Вілейшчыне:

**– Уся праца робіцца саборна – намаганнямі грамадскасці, краязнаўчага музея, выканкама, мясцовых улад. Стыль просты: такая салдацкая творчасць, калі з камення, спадручнага матэрыялу робім помнікі.**

Падкрэсліў Барыс Цітовіч, што вельмі важна пабудаваць гістарычны мемарыяльны маршрут па тэрыторыі Беларусі. Каб ён ішоў па ўсёй лініі фронту, уключаў фартыфікацыйныя збудаванні і воінскія пахаванні. А потым, мажліва, і краіны-суседкі падключацца.

На канферэнцыі Цітовічы выступалі ўдвух: у выкананні спадарыні **Валянціны** гучалі ўрыўкі з літаратурна-музычнай кампазіцыі "З вайны лісткі паходнага сшытка". Яна складзеная па вершах, песнях, дзённіках удзельнікаў Першай сусветнай.




Краязнаўца і мастак Барыс Цітовіч (злева) прымае кнігі ад літоўскіх навукоўцаў.

### Як бежанцы ўсведамлялі сябе беларусамі

Падчас пленарнага пасяджэння і працы па пяці секцыях навукоўцы знаёмілі з мноствам дакладаў. У іх асвяцілі разнастайныя аспекты Першай сусветнай: яе прычыны і наступствы, баявыя дзеянні і нацыянальны рух, дыпламатыя і лёс бежанцаў і многія-многія іншыя.

**У час вайны бежанцамі сталі каля паўтара мільёна беларусаў.**

Намесніца дэкана гістарычнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ламаносава **Аксана Солапава** эмацыйна даводзіла, як вымушанае перасяленне паспрыяла самаідэнтыфікацыі беларусаў як асобнага народа.

Прыводзіла вытрымкі з успамінаў. Людзі прыязджалі ў Тамбоў, лічылі, што яны рускія, гавораць па-руску, а ім у адказ: "Якія ж вы рускія, вы па-руску гаварыць не ўмееце".

Загадчык кафедры гісторыі славян Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Шаўчэнкі **Валеры Яравы** падзяліўся, чым гэта канферэнцыя для яго важная:

– Ва ўсіх адносінах. Найперш, у навуковым плане, таму што я магу паслухаць даследаванні калег. І яшчэ гэта – асабістыя кантакты. Абмяркоўваем навуковыя пытанні, навуковыя працэс, перспектывы.

**– Да гэтай канферэнцыі ці чулі пра Вілейку што?**

– Больш пра Смаргонь ведаў. Хоць назву Вілейка чуў, але пра маштаб баёў тут ведаў мала. Гэта было своеасаблівым адкрыццём.

Сярод удзельнікаў канферэнцыі былі краязнаўцы з рэгіёна, аўтары "РГ". Адзін з іх – **Генадзь Малышаў**, які шмат год аддаў вывучэнню падзей Першай сусветнай на Мядзельшчыне. **Уладзімір Прыхач** расказваў пра храмы Смаргоні ў полымі вайны. Ды шмат цікавых фотаздымкаў знайшоў – некаторыя навукоўцы фатаграфавалі іх наўпрост з экрана.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

ЖЫЦЦЁВАЕ

# Як мы даставалі з-пад падлогі пчаліны рой

**ВАЛОЖЫН. Два гады назад мы з мужам купілі старую, амаль стогадовую драўляную хату ў Валожынскім раёне. Разам з хатай нам дастаўся рой пчолаў, які аблюбаваў ніжняе бервяно. Суседка сказала, што, калі яна пераехала сюды ў 1956 годзе, пчолы ўжо былі.**

Два гады мы жылі поруч з руплівымі насякомымі і не перашкаджалі адно аднаму. Аднак сёлета задумалі ўцяпліць падлогу. А для таго, каб гэта зрабіць, трэба было неяк пазбавіцца ад пчолаў, якія, як мы здагадваліся, праз шчыліну ў бервяне залятаді пад падлогу і жылі там.

Вырашана было зрабіць усё магчымае, каб пакінуць пчолаў ужывых. Для гэтага мы кінуліся ў пошукі пчаляра, які б прыехаў і перасадзіў іх у вулей. Пакінем мы гэты вулей сабе, ці не – справа другасная. Галоўнае, каб спецыяліст знайшоўся.

Паралельна я пачала лазіць па пчалярскіх форумах і шукаць выйсце там. Аднак тое, што я там знайшла, мяне не парадавала. Атрымлівалася, што рой ніяк не выманіць і нават не забіць. Ніякія сродкі не дапамогуць.

І вось здаецца, мы знайшлі пчаляра, які пагадзіўся дастаць рой і перавезці сабе на пчальнік. Але за рознымі справамі працэс зацягваўся, пачаліся начныя замаразкі. І пчаляр сказаў, што не прыедзе – пчолы ўжо не выжывуць, калі іх перасадзіць. А проста так іх выганяць ужо небяспечна, бо яны паселі дома і настроіліся на агрэсіўную абарону. Ды і ў кожным разе, забіваць іх шкада.

**Нам таксама шкада іх забіваць, але трываць мінусавую тэмпературу ў хаце ўзімку не хацелася.**

Таму вырашылі не спыняць спробы і ўсё ж выманіць пчол, хоць і коштам іх жыцця. І – о, цуд! Пазнаёміліся з пчаляром з суседняй вёскі, які сам пагадзіўся "пад'ехаць паглядзець", што ў нас там.

**Мікалай Аляксандравіч** прыехаў да нас на наступны дзень са спецыяльным адзеннем. Папрасіў у мяне мятлу, вядро вады, пыласос. Муж дапамог ямуададраць дошкі ад лагаў. А далей пчаляр сказаў: "Я сам". Мы назіралі за яго працай з акна. Мікалай засмоктваў пчолаў у пыласос і акуратна аддзіраў соты ад дошак. Я не паспявала насіць яму пустыя чыстыя вёдры і тазы для мёду. І са шкадаваннем раз за разам вытрасала мёртвых пчолак з торбачкі з-пад пыласоса.

Праз амаль як чатыры гадзіны ўсё скончылася. Адзінокія пчолы ў разгубленасці яшчэ лёталі па двары і ў хаце. Дзякуй ім, руплівым, што назапасілі 35 літраў мёду, які, спадзяюся, пойдзе нам на здароўе. І няхай нас прабачаць.

**Аўгіня МАНЦЭВІЧ.**




Мінчанка Дар'я Мандзік прыехала да гаспадароў дома на Валожыншчыне, які аблюбаваў пчаліны рой. І падзівілася, і дзікага мёду пакаштавала.

ВЫСТАВЫ

# Дзіцячыя карціны можна лічыць творамі мастацтва

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 кастрычніка ў Палацы культуры адкрылася выстава "Восень у студыі". Яна будзе працаваць да канца месяца.**

На ёй работы выпускнікоў студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

– У мяне ёсць асобная папка, – расказвае **Галіна Сушко**, кіраўнік студыі, – дзе я ўжо шмат гадоў захоўваю найбольш цікавыя работы. Нядаўна зазірнула ў яе, пераглядзела. І зразумела, што многія мае вучні даўно ўжо не дзеці. Аднак іх дзіцячыя захапленні можна лічыць мастацкімі працамі. Таму і вырашыла зладзіць гэту выставу.

### У Аўстраліі карціны малююць на камп'ютарах

Мастачка адзначае, што многія яе вучні ўжо самі выкладчыкі, архітэктары, дызайнеры. Шмат хто вучыцца ў вышэйшых навучальных установах нашай краіны, таксама Чэхіі, Польшчы, Расіі і Літвы.

**Кацярына Гаманюк у дзяцінстве вучылася ў студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Маладзечне. Пасля з бацькамі з'ехала ў Аўстралію. Там яна вучыцца на ландшафтнага дызайнера. Аднак маляваць не перастае.**

– Каця часта расказвае, як вучаць маляваць іх, – дзеліцца ўражаннямі Галіна Сушко. – Мяне вельмі здзівіла, калі дзяўчына сказала, што большасць прац яны малююць за камп'ютарам. Аднак выкладчыкі вельмі цэняць, калі чалавек можа намаляваць нешта ад рукі.

Кіраўнік студыі адзначае, што не ўсе дзіцячыя творы можна лічыць творамі мастацтва. Толькі тыя, якія зробленыя з натхненнем, якія кранаюць душу.

Хаця пасля заўважае, што гэтыя крытэрыі размытыя і адназначна межы нельга вызначыць.

### Вельмі важна для мастака мысліць вобразамі

Галіна Сушко адзначае, што ў студыю можна прыходзіць на працягу года, каб проста памаляваць. Пры гэтым могуць гэта рабіць не толькі дзеці, але і дарослыя. Галоўны прынцып – не прымушаць чалавека маляваць нешта пэўнае.

**Галіна СІНІЦА.**

**Фота з выставы глядзіце на сайце Rh.by**

КУЛЬТУРА

## Выстава Мацюшонка пройдзе з перфомансам

**ВІЛЕЙКА.** У пятніцу, 24 кастрычніка, запрацуе выстава "Дзяды" вілейскага мастака **Эдуарда Мацюшонка**. Яе адкрыццё ў зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея адбудзецца ў 17:30.

– Выстава "Дзяды" прымеркаваная да рэлігійнага свята памінання продкаў, – распявала навуковая супрацоўніца музея **Надзея Аўдзей**. – Яна пабуджае аднасіцца з павагай да свайго роду і свайго месца ў ім.

У межах выставы арганізуюць перфоманс.

**Аддзел інфармацыі.**



# Пенсіянеры і сіроты разам супраць адзіноты

**Рабіць сваё жыццё ў любым узросце цікавым і насычаным жыхарам сельскай мясцовасці дапамагалі супрацоўнікі Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

Разнастайныя мерапрыемствы, экскурсіі і душэўныя сустрэчы для жыхароў Маладзечанскага раёна сталі магчымымі дзякуючы праекту "**Пакаленні разам супраць адзіноты**".

З фінансавай падтрымкай германскага фонду "Памяць, адказнасць і будучыня" сумесна з Міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Узаемаразуменне" арганізатары змаглі рэалізаваць усе задумы для таго, каб сталыя людзі адчувалі сябе патрэбнымі і цікавымі.

Праект арыентаваны на падтрымку людзей, якія перажылі Вялікую Айчынную вайну, а таксама ўвогуле на людзей сталага ўзросту. Арганізатары звярнулі ўвагу на жыхароў сельскай мясцовасці.

Каб стымуляваць сталых людзей удзельнічаць у грамадскім жыцці, даць ім адчуць сябе патрэбнымі сучаснаму грамадству, арганізатары праводзілі святы і іншыя мерапрыемствы з удзелам выхаванцаў Радашкавіцкай школы-інтэрната для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў.

– Спачатку дзеці былі крыху асцярожныя, – распавядае каардынатар праекта **Наталля Пяскова**. – Пасля некалькіх сустрэч яны сталі як родныя.

Арганізатары праекта стварылі клуб стасункаў сталых людзей "Аптыміст" з удзелам дзяцей з Радашкавіцкага інтэрната.

Каб не губляць сувязь пасля таго, як дзеці з інтэрната пайшлі ў самастойнае жыццё, сталыя ўдзельнікі праекта вырашылі асвоіць працу з камп'ютарам. Калі раней яны баяліся падыходзіць да тэхнікі, то цяпер могуць самі дасылаць блізкім ліст праз інтэрнэт .

Гэта толькі адна з магчымасцяў, якія атрымалі ўдзельнікі клуба "Аптыміст". Ахвотныя наведвалі гурток вязання і шыцця "Рукадзельніца", які праводзіла валанцёр **Людміла Рыжыкава**.

У Лебедзеўскай школе для сталых жанчын і дзяўчат праводзіла заняткі "Школы жаноцкасці" псіхолаг **Алена Камісарук**. Жанчыны дапамагаюць адна адной асэнсаваць сябе ў розных жаночых ролях, спраўляцца са складанымі сітуацыямі.

Раз на тыдзень у гуртку **Веры Вайцяховіч** сталыя жыхары Радашкавічаў вучыліся іграць на гітары. Цяпер яны ўдала выступаюць на сустрэчах клуба "Аптыміст".

Дзякуючы праекту створаныя дзве прыёмныя сям'і. Адзінокіх пенсіянерак прынялі ў сям'ю **Ала Стахоўская** з Гарадка і **Ванда Пагуда** з Раеўшчыны, каб разам ствараць дабрабыт.

Віншаванні са святамі, сустрэчы за салодкім сталом з песнямі, экскурсіі ў Мір і Нясвіж, музеі, паездка ў дэльфінарый, на страусіную ферму, тэатр музычнай камеды.

Узаемападтрымка, дапамога, сяброўства, увага – гэта тое галоўнае, што атрымалі ўдзельнікі праекта "Пакаленні разам супраць адзіноты".



Фота на памяць падчас пазнавальнай экскурсійнай паездкі ў Белавежскую пушчу. Удзельнікі клуба "Аптыміст" і выхаванцы Радашкавіцкай школы-інтэрната.

**Праект "Пакаленні разам супраць адзіноты" рэалізаваў Маладзечанскі РТЦСАН. Фінансавую і метадычную падтрымку аказаў германскі фонд "Памяць, адказнасць і будучыня" сумесна з Міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Узаемаразуменне", які выконвае праграму "Месца сустрэчы – ДЫЯЛОГ" у Беларусі. Праект доўжыўся ад лістапада 2012 года да кастрычніка 2014.**



Каардынатар праекта Наталля Пяскова і памочнік каардынатара Ірына Швайбовіч падчас выступлення ўдзельнікаў драматычнага гуртка (злева направа).

EVZ STIFTUNG ERINNERUNG VERANTWORTUNG ZUKUNFT

TREFFPUNKT DIALOG : МЕСТО ВСТРЕЧИ ДИАЛОГ

"РТЦСАН", УНП 690295922




Спампаваць каляровы файл, каб самім апрануць маленькую заўзятарку, можна на сайце rh.by

ХАКЕЙ

# У чым хадзіць на хакей

**МАЛАДЗЕЧНА. Не толькі за спартыўнымі баталіямі цікава назіраць, калі прыходзіш на хакей. Не меншую цікавасць выклікаюць і заўзятары хакейнага клуба “Дынама-Маладзечна”.**

Што апрануць заўзятару, каб не толькі падчас матча быць самым стыльным і модным, а выглядаць так заўжды?

З надыходам халадоў аматар сваёй улюбёнай хакейнай каманды можа не турбавацца наконт таго, што ён замерзне. Заўзятары могуць набыць сабе байкі з хакейнымі прынтамі.

Калі раптам падчас матча стане горача, пад новенькую байку можна апрануць кашулю-пола або прыгожую майку. Які колер пасуе да вашых вачэй: сіні, шэры ці паласаты – вырашаць вам.

Усе рэчы ёсць і ў жаночым варыянце, таму заўзятаркам не трэба выбіраць паміж камфортам і прыгажосцю.

Заўзятар **Антон Юхневіч** прызнаўся, што да зімы падарыў сваёй каханай, якая ходзіць з ім на матчы, цёплую шапку “Дынама”:

– Ёй так пасуе бела-сіні колер!

А сабе замовіў джэрсі з уласным імем.

Самыя маленькія заўзятары або дзеткі шчырых заўзятараў таксама не засталіся па-за ўвагай.

Каб дзіця з ранняга ўзросту ведала, што яно выхоўваецца ў сям'і заўзятараў, у гардэроб яму вы можаце набыць паўзункі, нагруднікі і бодзі. І каб дзіця не плакала ў выпадку пройгрышу сваёй каманды, можна купіць “дынамаўскія” цацкі – мяккіх зубранятаў.

У заўзятаркі каманды **Тацяны Благавешчанскай** да рэчаў стаўленне асаблівае. Дынамаўскіх у яе гардэробе шмат.

### У падарунак – дынамаўскую касметычку

Сябры, ведаючы пра Тацціяніна захапленне, на дзень нараджэння падарылі ёй джэрсі белага колеру. І сама Таццяна ведае, чым парадаваць сяброўак.

– Ну ці не прыгажосць падарыць лепшай сяброўцы касметычку “Дынама”? – кажа Таццяна.

Па-за хакейнымі матчамі гардэроб Таццяна не мяняе. Носіць і майкі, і байкі, і кепкі.

– Нас, хворых на ўсю галаву заўзятараў, здалёк відаць нават не ў хакейны сезон, – жартуе Таццяна. – Цяпер вельмі хачу набыць чахол на тэлефон. Вось чакаю, калі з'явіцца ў продажы.

Акрамя рэчаў, якія можна апрануць, у запасе распрацоўшчыкаў шмат усяго для дома і аўтамабіля. Гэта і падушкі, і ручнікі, і дыванкі.

Але не на ўсіх рэчах, якія вырабляюць для заўзятараў, ёсць прынт “Дынама-Маладечна”. Таму з пытаннем, ці з'явяцца яны ў Маладзечне, мы звярнуліся да спецыяліста аддзела маркетынгу ХК “Дынама-Маладзечна” **Сяргея Філіпава**:

– Усе прынты, эмблемы ўжо даўно распрацаваныя і гатовыя! У лістападзе яны з'явяцца ў Маладзечне. Таму самым шчырым заўзятарам не давядзецца ехаць у Мінск за пакупкамі.

Аднак Сяргей Філіпаў адзначыў, што прынт “Дынама-Маладзечна” з'явіцца хутчэй на адзенні, чым на аксесуарах накшталт падушак, цацак ці дыванкоў. Але запатрабаванасць усіх рэчаў будзе правярацца попытам і цікавасцю пакупнікоў.

**Нагадваем, што бліжэйшы дамашні матч каманды “Дынама-Маладзечна” адбудзецца 24 кастрычніка. Маладзечанцы будуць супрацьстаяць хакеістам клуба “Ліда”. Пачатак сустрэчы ў 18.30. У нядзелю, 26 кастрычніка, у Маладзечна завітае ХК “Нёман” з Гродна. Пачатак гульні ў 17.00.**

Наталля ТУР.

НАВІНЫ

## Месцы ў чэмпіянаце размеркаваныя

**ВІЛЕЙКА.** Завяршыўся чэмпіянат Вілейскага раёна па футболе. Як паведамляла “РГ”, прызёры вызначыліся яшчэ за тур да заканчэння чэмпіянату.

Пераможцам “Першы Беларускі”, “Мехатроніка” – на другім месцы. На трэцім – “Чурлёны”.

На чацвертым месцы пасля перамогі ў апошнім матчы над “Шылавічамі” аказалася “Вязынь”, на апошнім – “Шылавічы”. Абедзве каманды набралі па дзевяць ачкоў, але па дадатковых паказчыках “Вязынь” аказалася вышэй.

Па выніках чэмпіянату ў камандах-прызёраў вызначылі лепшых гульцоў. Імі сталі **Віталь Максімовіч** (“Першы Беларускі”), **Андрэй Шупенька** (“Мехатроніка”), **Аляксей Кашко** (“Чурлёны”).

## Два галы Лавора для перамогі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У чэмпіянаце вобласці па футболе “Маладзечна-ДЮСШ-4” 18 кастрычніка сустракалася ў гасцях з ФК “Старыя Дарогі”. Маладзечанцы перамаглі 2:0. Перамогу забяспечылі два трапныя ўдары **Сяргея Лавора**.

“Маладзечна-ДЮСШ-4” па-ранейшаму ўтрымлівае першае месца. У наступным туры маладзечанцы згуляюць з “Зоркай-РФАЦ-Вікторыя” з Пухавіцкага раёна.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Смаргонец узначаліў беларускі хакей

**СМАРГОНЬ.** Новым старшынёй федэрацыі беларускага хакея стаў першы віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта ўраджэнец Смаргоні **Ігар Рачкоўскі**.

На гэтай пасадзе ён змяніў **Яўгена Ворсіна**, які ўзначальваў федэрацыю з 2010 года. Пра гэта стала вядома 22 кастрычніка на справаздачна-выбарчай канферэнцыі федэрацыі хакея Беларусі.

Рачкоўскі быў адзіным кандыдатам на гэтую пасаду і за яго прагаласавалі 100% прысутных членаў выканкама. Практычна аднагалосна былі прынятыя і астатнія прапановы.

Аддзел інфармацыі.

ПЕРШАЯ ЛІГА

## “Смаргонь” правяла прынцыповую гульню

**СМАРГОНЬ. У матчы 25 тура 18 кастрычніка “Смаргонь” прымала ФК “Гарадзея”. Сустракаліся прынцыповыя сапернікі: абедзве каманды прэтэндуюць на трэці радок у чэмпіянаце.**

“Гарадзея” прайграла тры папярэднія матчы. Таму, як і меркавалася, гульцы каманды з першых хвілін пачалі штурмаваць вароты гаспадароў. А смаргонцы ў першым тайме аддалі перавагу гульні на контратаках.

На дваццатай хвіліне абаронца “чырвона-чорных” зваліў у сваёй штрафной плошчы **Руслана Цеверава**. Арбітр прызначыў пенальці. **Дзмітры Лебедзеў** магутным ударам развёў варатара гаспадароў і мяч па розных кутках і адкрыў лік у матчы.

Але не паспелі госці парадавацца здабытай перавазе, як практычна ў наступнай жа атацы іх гулец дапусціў недарэчную памылку. Мяч трапіў да **Мікалая Рындзюка**. Той выйшаў сам-насам з галкіперам “Гарадзеі” і дакладна прабіў у правы ад варатара кут. Лік стаў 1:1.

У першым тайме яшчэ былі моманты ў гасцей, але альбо выратоўваў галкіпер смаргонцаў, альбо гарадзейцам бракавала дакладнасці.

У другім тайме гульня моцна не змянілася. Абедзве каманды зноў мелі магчымасці схіліць вагі на сваю карысць, але вынік больш не змяніўся. Праўда, госці яшчэ двойчы забівалі мяч у вароты “Смаргоні”, але бакавы арбітр двойчы фіксаваў афсайд.

У выніку баявая нічыя – 1:1. “Смаргонь” не здолела скарыстацца падарункам “Віцебска”, які прайграў “Іслачы”, і выйсці на трэцяе месца. Але адставанне ад віцяблян смаргонцы ўсё ж скарацілі. Зараз у іх 41 ачко, у “Віцебска” толькі на адно больш.

Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.

ФУТБОЛ

## Капітан “Віліі”: “Нашы фанаты – лепшыя”

**ВІЛЕЙКА. Падсумуем вынікі выступлення “Віліі” ў сёлетнім чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе.**

У сваёй групе каманда заняла шостае месца, пасля 18 гульняў набрала 25 ачкоў. Забіла 40 галоў, прапусціла 38. А па выніках стыкавых матчаў саступіла “Лівадзіі-Юні” і заняла ў чэмпіянаце 12 месца.

**– Як ацэньваеце выступленне каманды?** – такое першае пытанне задаў капітану “Віліі” **Алегу Гулевічу**.

– Як кепскае. Разлічвалі трапіць у сваёй групе ў чацвёрку і далей працягнуць барацьбу. Дзеля гэтага і братоў **Макоўскіх** запрашалі.

**– Чаму не атрымалася?**

– У некаторых гульнях проста не шанцавала. Было і такое, што не ўсе гульцы прыязджалі на гульні. На апошнюю паехала 11 чалавек. А трэба, каб яшчэ тры-чатыры замены было. Пакуль гульцы былі без траўмаў, лік трымалі 2:2. А потым напрапускалі галоў, калі тры чалавекі атрымалі траўмы. Ім не тое, што прабегчыся, прайсціся было балюча.

**– Запрашэнне такіх вядомых гульцоў, як Уладзімір і Міхаіл Макоўскія, Юры Сыраквашка, сябе апраўдала?**

– Вядома. Для нашых маладых гульцоў гэта добры досвед на будучыню. Вілейскія гульцы – усе самавучкі, як атрымліваецца, так і гуляем. А тыя ж Макоўскія, яны пакажуць і падкажуць, як бегчы, у які момант перадачу добрую даць.

**– Хто з мясцовых маладых гульцоў прагрэсіруе?**

– **Віктар Сяліцкі**. Добры нападаючы, на ўсіх пазіцыях можа згуляць. Ён стаў лепшым бамбардзірам каманды. Станоўча паказалі сябе **Сяргей Яноўскі, Яўген Пачанкоў**. Як заўсёды, **Міша Цырук** добра згуляў. Гэта будучыня вілейскага футбола.

Самае галоўнае, што ёсць касцяк: хлопцы, якія імкнуцца, каб “Вілія” існавала. Той жа **Віталь Кулеш, Аляксандр Грыхуцік**.

**– Колькі з вамі гутарым, кожны раз добрым словам прыгадваеце заўзятараў...**

– Лічу, што нашы фанаты – адны з самых лепшых у вобласці. Глядзім жа, параўноўваем, як і ездзім па вобласці. Нямала ў Вілейцы на футбол прыходзіць людзей, і ў гэтым сезоне іх пабольшала. Актыўна падтрымліваюць нас – са сцягамі, крычалкамі. У інтэрнэце матчы абмяркоўваюць.

**– Якой бачыце “Вілію” ў наступным сезоне?**

– Пакуль не думалі. Іграць у чэмпіянаце вобласці будзем. Задачы – яны залежаць ад таго, які склад набяром у наступным годзе. А за падтрымку каманды хочацца вялікі дзякуй сказаць **Пятру Губічу**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Футбольны клуб "Маладзечна-2013" завяршыў сезон на 16 радку турнірнай табліцы

Далучаюся да падзяк Аляксандра. Дзякуй, хлопцы, што два гады запар абаранялі колеры нашага горада. А наконт наступнага сезона... Для мяне не прынцыпова, каб склад каманды быў цалкам з мясцовых хлопцаў. Але! Прынцыпова. Калі і ў наступным сезоне спадар Любанец і Ко збіраюцца змагацца за наш горад, то каб гэта абывалася толькі сумесна са спадаром Гармазой і яго хлопцамі і ніяк інакш. І каб было якое-небудзь дастатковае фінансаванне, бо без яго будуць цяжкасці як са складам, так і з вынікам. А кожны сезон быць у нізе табліцы... Ад гэтага не атрымоўваюць ні задавальненне, ні асалоду футбалісты, ды й аматары з фанатамі. І яшчэ. Наведаў гульню мясцовага Дынама-Маладзечна. Усё зроблена выдатна. Вось крыху б такога фінансавання і футбольнаму клубу – былі б і склад моцны, і аматары на стадыёне, і вынік. 3.Ы. Яшчэ раз дзякуй кіраўніцтву клуба і гульцам за сезон. ***Балельшчык.***

Дзякуй хлопцам, што два сезоны гулялі за наш горад, але я лічу, што каманда на наступны сезон павінна будавацца на базе гульцоў каманды ДЮСШ і адпаведна трэніравацца яе павінен трэнер, які ведае магчымасці гэтых гульцоў. ***Аляксандр.***

### Восеньскія фарбы Маладзечна. Фотарэпартаж

Вельмі шыкоўныя фоткі! Каб уся восень была такая, я яе нават палюбіла б.) ***Багіня.***

## ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Лепшыя відэа сярод мясцовых СМІ здымае "Рэгіянальная газета"

**Гэта толькі адна з чатырох намінацый, у якой "РГ" увайшла ў лік пераможцаў у конкурсе на лепшую рэгіянальную газету года. Вынікі падвялі 17 кастрычніка.**

Першае месца ў намінацыі "Лепшы відэаматэрыял" узяла 20-гадовая журналістка **Настасся Роўда**. Настасся пачала працу ў "РГ" два гады таму адразу пасля заканчэння маладзечанскай гімназіі-каледжа. Цяпер вучыцца ў БДУ ў Інстытуце журналістыкі.

Асаблівую ўвагу ў сваёй працы скіроўвае на відэа, фота і інфаграфіку.

Яна атрымала яшчэ адну перамогу – трэцяе месца ў намінацыі "Эканоміка і бізнэс" за параўнанне цэн на прадукты за некалькі год і інфаграфіку на гэту тэму.

Трэцяе месца ў намінацыі "Гісторыя і краязнаўства" атрымаў пазаштатны аўтар "РГ" **Міхась Міхалевіч** за артыкул "Як білі кабана на Каляды". Ён цікавіцца разнастайнымі краязнаўчымі тэмамі, звязанымі з нашым рэгіёнам, актыўна ўдзельнічае ў культурных падзеях. Працуе ў маладзечанскім Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі загадчыкам аддзела камунальнай гігіены.

Чацвертую ўзнагароду "РГ" атрымала ў намінацыі "Лепшы інтэрнэт-сайт" і заняла другое месца. Сайт RH.BY мы абнавілі гэтым летам.

Журы конкурсу адзначыла "Рэгіянальную газету" як адну з паспяховых прыватных мясцовых выданняў Беларусі.

Конкурс арганізавала Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы Беларусі. У складзе журы – журналіст сябра праўлення Беларускай Асацыяцыі журналістаў **Аляксадр Коктыш**, журналіст польскай "Газеты Выборчай" **Анджэй Пачобут**, мовазнаўца і грамадскі дзеяч **Вінцук Вячорка**, фотажурналіст "Нашай нівы" **Сяргей Гудзілін**.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пераможныя відэа і артыкулы вы можаце ўбачыць на сайце**




## РЭПЕРТУАРЫ



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Камедыя, анімацыя "**Горад герояў**", 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 кастрычніка – у 14:00
26 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Сямейная камедыя "**Аляксандр і жахлівы, кашмарны, нехарошы, вельмі кепскі дзень**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 кастрычніка – у 16:00 (цана білета: 25 000 рублёў)
28 кастрычніка – у 15:30 (цана білета: 20 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Мядзведзі-суседзі**", 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 кастрычніка – у 15:00
27, 29 кастрычніка – у 15:30
30 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Зіп і Зап. Клуб шкляных шарыкаў**" (Іспанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 кастрычніка – у 13:00 (цана білета: 25 000 рублёў)
30 кастрычніка – у 16:00 (20 000 рублёў)

"**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
25 кастрычніка – у 18:00
27, 28, 29 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі "**Праклляце Анабэль**" (ЗША, 2014, ад 18 год)
24 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! "**Дракула**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24, 25 кастрычніка – у 20:00
26 кастрычніка – у 21:30
27, 28, 29 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! "Горка 2" (Расія, 2014, ад 16 год)
24, 25 кастрычніка – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
26 кастрычніка – у 19:00 (45 000 рублёў)
27, 28, 29, 30 кастрычніка – у 21:30 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Драма "**Сонечны удар**" (Расія, 2014, ад 16 год)
30 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Неверагоднае перамяшчэнне**" (Беларусьфільм, 2014)
25 кастрычніка – в 17:00
26 кастрычніка – у 14:00 (цана білета: 20 000 рублёў)
28 кастрычніка – у 14:00 (15 000 рублёў)

Анімацыя "**Оз: Вяртанне ў Ізумрудны горад**" (ЗША, Індыя, 2013, без узроставых абмежаванняў)
24 кастрычніка – у 17:30
25 кастрычніка – у 15:00
26 кастрычніка – у 16:00 (цана білета: 20 000 рублёў)
27 кастрычніка – у 14:00 (15 000 рублёў)

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
29 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Індзюкі: Назад у будучыню**" (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
30 кастрычніка – у 14:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Кухня ў Парыжы**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 кастрычніка – у 19:30
25 кастрычніка – у 21:30
26 кастрычніка – у 18:30
27, 29 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Нешта**" (ЗША, Канада 2011, ад 16 год)
24 кастрычніка – у 21:30
25 кастрычніка – у 19:00
26, 28, 30 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, з 16 год)
24 кастрычніка – у 18:00
25 кастрычніка – у 18:00
30 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
24 кастрычніка – у 21:00
26 кастрычніка – у 18:00
29 кастрычніка – у 21:00
30 кастрычніка – у 21:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Індыкі: назад у будучыню**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
25, 26 кастрычніка – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Меладрама "**Абяцанне**" (Францыя, з 16 год)
25 кастрычніка – у 21:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Нешта**" (ЗША, Канада, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 кастрычніка – у 21:00
29 кастрычніка – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
24 кастрычніка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
25 кастрычніка – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
28 кастрычніка – у 19:00

"**Шукаю сапраўднага мужчыну**" (камедыя ў 2-х дзеях), Алена Папова
29 кастрычніка – у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
30 кастрычніка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" пакажа ў кастрычніку

"**Чырвоная шапачка**" (добрая казка), Я.Шварц
26 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27**.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 2 | | 6 | | | |
| 9 | | | | | | 2 | | |
| 4 | 3 | 2 | | | | 5 | | |
| | 5 | | | | 4 | 1 | | |
| | 8 | 1 | 5 | | 2 | 3 | 7 | |
| | | 9 | 1 | | | | 5 | |
| | | 7 | | | | 6 | 8 | 1 |
| | | 8 | | | | | | 9 |
| | | | 9 | | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ГАРАСКОП
**17-23 КАСТРЫЧНІКА**



**Авен.** Сямейныя абавязкі стануць для вас цяжкім грузам. Увогуле можа пагоршыцца самаадчуванне, асабліва калі вы грэбуеце падтрымкай сваёй фізічнай формы. Тое, як вы справіцеся з абставінамі гэтага перыяду, залежыць ад вашых поглядаў і сталасці.



**Цялец.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі.



**Блізняты.** Не займайцеся самаедствам і не злуйцеся, калі штосьці перастане атрымлівацца. Не прыніжайце сябе, добра думайце пра сябе, і вы дабʼяцеся вялікага поспеху.



**Рак.** Вы можаце трапіць у сітуацыю, калі за вамі будзе апошняе слова. Ад вашага рашэння будзе многае залежаць. Але трэба ўсё ўзважыць.



**Леў.** Адкрыюцца новыя перспектывы, магчымасці, і вы зможаце напоўніцу раскрыць свой талент. Палепшыцца фінансавы стан, а трошкі пазней можна разлічваць на значнае павелічэнне даходу.



**Дзева.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца.



**Шалі.** У вас ёсць шанец атрымаць тое, што вы хочаце. І не трэба лавіць лёс за хвост, трэба дачакацца, каб ён сам павярнуўся да вас тварам.



**Скарпіён.** Калі з кім у жыцці прыйдзецца расстацца, то не шкадуйце, замест старых адносін узнікнуць новыя, і яны атрымаюць другое дыханне.



**Стралец.** Верце ў сябе, не губляйце ўпэўненасці. Успрымайце любыя абставіны як удачу. І тады гэтая ўдача не прымусіць сябе чакаць.



**Казярог.** Будзьце да сябе больш паблажлівыя, не патрабуйце ад сябе шмат. Пры адстойванні сваіх інтарэсаў праявіце настойлівасць.



**Вадалей.** Поспех літаральна звваліцца вам на галаву, прычым не толькі ў сферы карʼеры, але і ў шмат якіх іншых – без увагі не застанецца і ўласнае жыццё.



**Рыбы.** Лёс вам усміхнецца тады, як толькі ў вас зʼявяцца сябры і апекуны, якія, ведаючы вашу працавітасць, стараннасць і неверагодную працоўную актыўнасць, запросяць удзельнічаць у развіцці свайго бізнесу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155



Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

### 25 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -5 / +1 | | -4 / +1 | | -4 / +3 | | -3 / +4 | |
| | 754 | ← 7 | 754 | ↑ 7 | 754 | ↑ 7 | 752 | ↑ 5 |
| Вільня | -5 / +1 | | -4 / +3 | | -2 / +3 | | +1 / +5 | |
| | 762 | ↖ 6 | 760 | ↑ 7 | 761 | ↑ 6 | 759 | ↑ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.01
Захад 17.52
Даўжыня дня 9.51

Усход 9.29
Захад 18.49
Квадра 1




## ● ПРЫКМЕТЫ

- Калі ліст з бярозы і дубу апаў чыста – лёгкі год, калі не чыста – цяжкая зіма.
- Дзяды, Асяніны (30 кастрычніка)– памінальны абрад, рытуальная вячэра ў памяць памерлых родзічаў.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Як работу ператварыць у хобі, каб паміж урокамі вырошчваць кававае дрэва і гадаваць марскую свінку Дусю, ведае настаўніца біялогіі Галіна Ахрэм. Пра яе захапленне чытайце ў наступным нумары.**

# "Маладзечанскай газеце" – 75 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Першая маладзечанская газета святкуе юбілей.**

Першы нумар газеты, якая тады называлася "Чырвоны сцяг", пабачыў свет 30 верасня 1939 года.

На жаль, першага нумара не захавалася. Галоўны рэдактар "Маладзечанскай газеты" **Аляксандр Лазоўскі** распавёў, што самы стары нумар, які сёння захоўваецца ў рэдакцыі, ад 1 студзеня 1946 года. Аднак у дужках пазначана, што гэта ўжо 404 нумар.

Пісалі ў той час пра тое, чым жыве раён у першы пасляваенны год. Сёння "Маладзечанская газета", як лічыць галоўны рэдактар, гэта цалкам сфарміраваная газета, у якой хораша працаваць. За пяць гадоў, што газету ўзначальвае Аляксандр Лазоўскі, толькі аднойчы давялося звальняць работніка. А так калектыву можна пазайздросціць яго згуртаванасці і сяброўскім адносінам.

Аляксандр Лазоўскі ўспамінае з цеплынёй тых людзей, якія ў свой час былі аўтарамі газеты. Сярод іх **Мікола Ермаловіч, Генадзь Каханоўскі, Ірына Шатыронак** і многія-многія іншыя.

Сваіх чытачоў калектыў "Маладзечанскай газеты" павіншуе тым, што ў суботу, 24 кастрычніка, выйдзе цалкам каляровы нумар, які будзе прысвечаны юбілею газеты.

На пытанне, да якіх вяршынь цяпер імкнецца "Маладзечанская газета", Аляксандр Лазоўскі адказаў:

– Працаваць яшчэ лепей, чым працавалі. Выпускаць большы тыраж, чым выпускалі, зарабляць больш, чым зараблялі!

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты" віншуе сваіх калег і сяброў з іх святам.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 43 (1017) 24.10.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 901. Падпісана ў друк у 10.00 23.10.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.